# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№5 (216)
май 2020



Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"

## У НУМАРЫ:

### У Польшчы выйшла манаграфія пра вытокі беларускай непакоры

Аўтар – вядомы варшаўскі беларусіст Андрэй Масквін, даследчык беларускага тэатра і літаратуры, выкладчык кафедры міжкультурных даследаванняў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы факультэта прыкладной лінгвістыкі Варшаўскага ўніверсітэта.

Старонка 2

### У Італіі прэзентавалі першую Анталогію беларускай паэзіі ХХ стагоддзя на італьянскай мове

У жніўні 2019 года праект гэтай анталогіі з удзелам Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" і Саюзам беларускіх пісьменнікаў быў прэзентаваны ў Мінску.

Старонка 3




# ДЫЯСПАРА АХВЯРАВАЛА МЕДЫКАМ БЕЛАРУСІ АМАЛЬ $60 000

Дыяспара працягвае падтрымліваць беларусаў у змаганні з COVID-19.

Як паведаміў адзін з каардынатараў кампаніі "ByCovid19 – дапамога ўрачам у Беларусі" Андрэй Стрыжак, за два месяцы існавання кампаніі беларуская дыяспара сабрала амаль за $60 000 на дапамогу беларускім дактарам у змаганні з каранавірусам.

Гэта, у прыватнасці, дазволіла не так даўно даставіць з Літвы 900 адзінак апаратуры на суму $30.000.

Агулам жа за два месяцы #BYCOVID19 сабралі $302 619 ахвяраванняў.

Варта памятаць, што каранавірус – праблема сусветная, і беларусы-ахвярадаўцы з розных краін таксама знаходзяцца ў экстрэмальных варунках.

Што да Беларусі, то прагнозы піку захворванняў COVID-19 дасюль застаюцца вельмі супярэчлівымі, а Міністэрства аховы здароўя больш за месяц не адказвала на пытанні журналістаў.

Ад імя Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" мы выказваем шчырую ўдзячнасць нашым суродзічам за мяжой!

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

## "БУДЗЬМА!" ДАПАМАГАЕ ДЗІЦЯЧАМУ ДОМУ-ІНТЭРНАТУ Ў ЧЭРВЕНІ. ДАЛУЧАЙЦЕСЯ І ВЫ!

Згуртаванне "Бацькаўшчына" ў межах дзейнасці кампаніі "Будзьма беларусамі!" працягвае аказваць дапамогу Чэрвеньскаму дому-інтэрнату для дзяцей-інвалідаў і маладых інвалідаў з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. У гэтую ўстанову мы перадалі сродкі індывідуальнай абароны, а менавіта:

- 400 аднаразовых медыцынскіх халатаў;
- 400 пар бахіл;
- 400 пар нарукаўнікаў;
- 900 пар аднаразовых пальчатак.

"Не сакрэт, што жыхары дамоў-інтэрнатаў – адна з найбольш уразлівых груп насельніцтва падчас пандэміі, хоць пра гэта асабліва не гавораць на дзяржаўным узроўні. Там пастаянна знаходзіцца шмат людзей, і няма магчымасці трымаць сацыяльную дыстанцыю.

Персаналу такіх устаноў надзвычай патрэбныя сродкі індывідуальнай абароны, для іх гэта цяпер фактычна пытанне выжывання.

Працяг на старонцы 2.

Ва ўмовах пандэміі COVID-19 Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" працягвае сваю працу, але, выконваючы рэкамендацыі СААЗ, у рэжыме самаізаляцыі.

Беражыце і вы сябе таксама!

#будзьмадома

навіны ЗБС "Бацькаўшчына!"

# "БУДЗЬМА!" ДАПАМАГАЕ ДЗІЦЯЧАМУ ДОМУ-ІНТЭРНАТУ Ў ЧЭРВЕНІ

Працяг са старонкі 1.

Таму мы – грамадская кампанія "Будзьма беларусамі!" і Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" – стараемся аказаць дапамогу, наколькі гэта магчыма", – гаворыць Ніна Шыдлоўская, каардынатар ГКК "Будзьма беларусамі!", старшыня Рады ЗБС "Бацькаўшчына", сузаснавальніца крамы budzma-krama.by.

"Мы даўно сябруем з Чэрвеньскім домам-інтэрнатам, таму і захваляваліся, як яны спраўляюцца ва ўмовах пандэміі, – працягвае спадарыня Шыдлоўская. – Даведаліся, што ёсць захварэлыя – і дзеткі, і персанал. Таму ўжо другі раз перадаём ім сродкі індывідуальнай абароны: тыдзень таму завезлі 1000 аднаразовых масак, а цяпер змаглі дапамагчы трошкі болей. Але і гэтага яшчэ недастаткова! Таму мы працягваем у краме budzma-krama. by дабрачынную акцыю "Дапаможам разам" у падтрымку Чэрвеньскага дома-інтэрната. Але, на жаль, дапамога патрэбная не толькі Чэрвеньскаму дому-інтэрнату. Такіх устаноў па ўсёй Беларусі нямала, і мы шчыра спадзяемся, што знойдзецца шмат неабыякавых людзей, якія падтрымаюць нашу ініцыятыву і па меры сваіх магчымасцяў акажуць дапамогу. І тут ад кожнага шмат не трэба, галоўнае – толькі жаданне дапамагаць!"

Заклікаем усіх неабыякавых далучыцца да нашай ініцыятывы і аказаць дапамогу дамам-інтэрнатам і падобным установам. Дапамагчы можна наступнымі спосабамі:

– перадаць аднаразовыя касцюмы, маскі і іншыя неабходныя сродкі абароны непасрэдна ў дамы-інтэрнаты;

– пералічыць грошы праз дабрачынны фонд "Добра тут", які займаецца падтрымкай дамоў-інтэрнатаў для людзей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця.

Будзьма неабыякавымі! Дапаможам разам тым, каму гэта цяпер сапраўды патрэбна!

budzma.by

# "БУДЗЬМА!" САБРАЛА І ПЕРАДАЛА КНІГІ ХВОРЫМ НА КАРАНАВІРУС

Кампанія "Будзьма беларусамі!" супольна з крамамі "Рагна" і "Мой модны кут" сабрала і перадала ў Мінскую абласную клінічную бальніцу кнігі для пацыентаў, хворых на каранавірус.

Не сакрэт, што тым, хто цяпер трапляе ў бальніцы з хваробаю COVID-19, якая бушуе ў нашай краіне, вельмі цяжка. Чалавек пакутуе на толькі фізічна, але і псіхічна, бо ў сярэднім праводзіць у замкнёнай прасторы ад двух да чатырох тыдняў. Каб падтрымаць людзей, што знаходзяцца ў лякарні, кампанія "Будзьма" з партнёрамі запусціла акцыю "Чытай і здаравей".

У яе межах любы ахвочы мог прынесці кнігі са сваёй хатняй бібліятэкі ў пункты збору — крамы "Мой модны кут" і "Рагна". Дзякуй усім, хто спрычыніўся! Ад моманту абвяшчэння акцыі сабралася салідная колькасць выданняў, якія і былі перададзеныя ў шпіталь. Прапануем на гэтым не спыняцца і працягнуць збор! Далучайцеся да нашай акцыі, прыносьце свае кнігі, а мы будзем перадаваць іх пацыентам лякарняў!

Таксама запрашаем далучыцца да дабрачыннай кампаніі "Дапаможам разам!", скіраванай на дапамогу Чэрвеньскаму дому-інтэрнату для дзяцей-інвалідаў і маладых інвалідаў з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. Палова сумы ад кожнай пакупкі будзе пералічаная на патрэбы гэтай установы. Днямі мы ўжо перадалі партыю сродкаў індывідуальнай абароны для персаналу.

Ваша дапамога, дапамога кожнага з нас цяпер патрэбна як ніколі, асабліва тым, каму цяжка саму паклапаціцца пра сябе.

budzma.by

кніга

# У ПОЛЬШЧЫ ВЫЙШЛА МАНАГРАФІЯ ПРА ВЫТОКІ БЕЛАРУСКАЙ НЕПАКОРЫ

"Literatury białoruskiej rodowody niepokorne" – так называецца свежая манаграфія, якая пабачыла свет у выдавецтве Беластоцкага ўніверсітэта. Мы не марудзячы паспяшаліся падрабязней распытаць пра яе змест непасрэдна ў аўтара – вядомага варшаўскага беларусіста Андрэя Масквіна, даследчыка беларускага тэатра і літаратуры, выкладчыка кафедры міжкультурных даследаванняў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы факультэта прыкладной лінгвістыкі Варшаўскага ўніверсітэта.

**– Чаму такая назва? І, дарэчы, як гэтую назву можна слушна перакласці на беларускую мову – "Карані (або вытокі?) непакоры ў беларускай літаратуры"?**




– Па-польску слова "радавод" азначае "карані", але ў той самы час і тое, што будзе далей... І таму адназначна перакласці цяжка. Можа, лепш выкарыстаць два словы? "Карані і эвалюцыя/развіццё..."?

**– Ці шмат часу заняла праца над кнігай? Якія аспекты жыцця і творчасці дзеячаў беларускай літаратуры ў ёй разглядаюцца?**

– На працягу многіх гадоў, з 2002-га па 2018-ы, я чытаў лекцыі па гісторыі беларускай літаратуры на сваёй кафедры міжкультурных даследаванняў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ў Варшаўскім універсітэце. Першы семестр ахопліваў перыяд ад XI–XIII стагоддзяў да 1917 года, а другі – XX стагоддзе. У лекцыях пра XX стагоддзе я аднойчы падкрэсліў такую праблему, як супрацьдзеянне беларускай літаратуры ўладам, існуючай сістэме, і зразумеў, што гэта можа быць цікавай тэмай для манаграфіі. І калі рыхтаваў гэтую кнігу, то мяне цікавіла тэма апазіцыі і супраціву ў гісторыі беларускай літаратуры. Кнігу я напісаў у два этапы. Спачатку, прыкладна за год, былі створаны асобныя артыкулы, а потым, у 2019 годзе, са студзеня да вераснія я напісаў другую палову кнігі. Манаграфія змяшчае дзевяць раздзелаў: яна пачынаецца з дыскусіі пра развіццё беларускай літаратуры на старонках "Нашай Нівы" на пачатку XX стагоддзя і заканчваецца зменамі ў праграме курсу беларускай літаратуры ў школах і ўніверсітэтах XXI стагоддзя. Апошняе, як вядома, прывяло да таго, што шмат важных імёнаў для беларускай літаратуры зніклі з падручнікаў, студэнты страцілі магчымасць даведацца пра складанае развіццё беларускай літаратуры, пра рэпрэсіі ў 1920–30-я гады. Змены прывялі таксама да недахопу інфармацыі пра літаратуру эмігрантаў...



**– Можа, атрымалася раскапаць якія-небудзь унікальныя дакументы ці ўсталяваць нейкія нечаканыя сувязі паміж творамі, персонамі і падзеямі іхнага жыцця?**

– На гэты раз я не выкарыстаў архіўныя матэрыялы. Тым больш варта памятаць, што я пішу для польскага чытача. Але праца над кнігай была складаная. Давялося, у прыватнасці, перагледзець шмат падручнікаў, выдадзеных пасля 1991 года. У выніку вымалявалася жудасная карціна таго, што адбылося, асабліва ў даследаваннях пра творчасць і жыццё Алеся Адамовіча і Васіля Быкава. Асаблівае месца ў манаграфіі займаюць даследаванні таго, якія вялікія змены цэнзура ўнесла ў аповесць "Сотнікаў". Важнае месца ў кнізе займае тэкст, прысвечаны аповесці Францішка Аляхновіча "У капцюрох ГПУ" – я вырашыў параўнаць усе беларускія і польскія версіі і паказаць, як Аляхновіч дапаўняў іх, дадаючы новыя факты з свайго знаходжання ў Беларусі і ГУЛАГу. Вельмі важны таксама тэкст пра перапіску Ларысы Геніюш, у якім яна паказаная як выдатная пісьменніца, смелая і непаўторная асоба.

Гутарыў Сяргей Кандрацёнка, прэс-сакратар МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

кніга

# У ІТАЛІІ ПРЭЗЕНТАВАЛІ ПЕРШУЮ АНТАЛОГІЮ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ XX СТАГОДДЗЯ НА ІТАЛЬЯНСКАЙ МОВЕ

У жніўні 2019 года праект гэтай анталогіі з удзелам Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" і Саюзам беларускіх пісьменнікаў быў прэзентаваны ў Мінску.

20 лютага 2020 года на факультэце сучасных моў, літаратур і культур Балонскага ўніверсітэта адбылася прэзентацыя першай Анталогіі беларускай паэзіі XX стагоддзя на італьянскай мове "Залатая сонца калясніца" ("Carro dorato del sole. Antologia della poesia bielorussa del XX secolo", CAPIREedizioni, 2020) пад рэдакцыяй Ларысы Пуцылевай.

Кніга ўяўляе сабой вынік калектыўнай працы групы перакладчыкаў: П. Гальвані, Л. Вентуры, С. Логіша, С. Каралёвай, М. Галаванавай, Л. Пуцылевай, М. Ферэнціна.

Арыгінальныя тэксты дваццаці шасці беларускіх паэтаў, якія належаць да розных гістарычных перыядаў (ад нацыянальнага рэнесансу пачатку дваццатага стагоддзя да "сацыялістычнага рэалізму" савецкіх гадоў і перыяду постмадэрну), у кнізе змешчаны побач з перакладамі на італьянскую мову.

У беларускай паэзіі, хоць яна і мала вядомая ў Еўропе, паколькі да 1991 года заставалася ў цені дамінуючай расійскай культуры, лепш, чым ва ўсіх астатніх відах мастацтва, адлюстраваўся доўгі шлях да нацыянальнай ідэнтычнасці, захоўвалася на працягу стагоддзяў культурная спадчына народа з пакутнай гісторыяй.

Кнігу адкрывае ўступнае слова паэта Давідэ Рандоні, рэдактара серыі "I Passatori. Contrabbando di poesia", і гісторыка-культурным нарысам Л. Пуцылевай "Маладая літаратура старажытнага народа". Паэтычныя тэксты суправаджаюцца біябібліяграфічнымі нататкамі пра аўтараў.

У прэзентацыі бралі ўдзел прафесар А. Чэкарэлі, дацэнты А. Ньера і Л. Пуцылева, а таксама студэнты славянскага аддзялення, якія прачыталі вершы ў арыгінале, на беларускай мове, і іх пераклады на італьянскую, рускую і польскія мовы.



Спадарыня Ларыса Пуцылева (у цэнтры) з перакладчыцамі Святланай Кавалёвай і Маяй Галаванавай.




Алесандра Ньера, які сам перакладае рускіх паэтаў і курыруе конкурс Балонскага ўніверсітэта на найлепшую кнігу перакладаў паэзіі, адзначыў высокую якасць перакладу, разнастайнасць стыляў перакладчыкаў, шматжанравасць прадстаўленых у анталогіі паэтычных твораў: цікавыя, але мала тыповыя для італьянскай паэзіі творы ў фальклорным стылі, як "На магіле" Пашкевіч-Цёткі, "Мужык" Я. Коласа, высока патрыятычныя, як "Пагоня" М. Багдановіча, "О, Беларусь, мая шыпшына" Ул. Дубоўкі, "О, Беларусь, мой край стары і слаўны" Л. Геніюш.

Ён асабліва падкрэсліў экспрэсію М. Танка ("Готыка Святой Ганны"), філасофскую разважлівасць Р. Барадуліна ("Парада"), элегантнасць малых форм А. Разанава ("Перакладаю шэпт даждж", "Яблык упаў") і Э. Акуліна ("Памяці музыканта").

Прафесар, выкладчык польскай мовы і літаратуры Андрэа Чэкарэлі, які ўзначальвае групу італьянскіх славістаў па вывучэнні аўтаперакладу, таксама адзначыў шэраг цікавых аўтараў і перакладаў. Ён спыніўся на перыядзе Адраджэння, у прыватнасці на некаторых вершах Я. Купалы, напісаных па-беларуску і па-польску, бо сам пераклаў іх для нарыса прафесара Антона Марыі Рафа, які ўпершыню прапанаваў стварыць італьянскую анталогію беларускай паэзіі, але не паспеў ажыццявіць задуманае.

А. Чэкарэлі падкрэсліў разнастайнасць тэм перакладзеных твораў, цікавасць, якая не памяншаецца да канца чытання, працытаваў вершы Х. Лялько "Тое" і Я. Чыквіна "Даўно нежывы бацька...".

Выступоўцамі былі адзначаны лаканічная глыбіня А. Бадака "Пад канец тысячагоддзя", пранізлівая лірычнасць Я. Янішчыц "Не адыходзь! Цябе так многа...", паэтычная маляўнічасць Л. Драньк-Майсюка "Тваё гранатавыя каралі", драматычная экспрэсія А. Сыса, сімвалічная метафізічнасць А. Глобуса "Квадрат", складаны малюнак і выразнасць Дз. Плакса, выяўленчая сіла А. Данільчык, падманлівая прастасць В. Жыбуля.

У канцы А. Чэкарэлі далучыўся да А. Ньера, які адзначыў вострую назіральнасць і сучасны рытм "Беларускага мужчыны" А. Хадановіча і прачытаў яго па-італьянску.

Абодва заявілі пад агульны смех, што аўтар здолеў абагуліць масу "ўсеагульных, сусветных рыс мужчыны ўвогуле", у тым ліку італьянскага мужчыны.

Падчас прэзентацыі была прадстаўленая яшчэ адна ластаўка на італьянскім паэтычным даляглядзе – двухмоўная італьянска-беларуская кніга вершаў А. Данільчык "Il canto del ghiaccio. Песня лёду" (Edizioni Controluce, 2019). Вялікую цікавасць выклікаў верш "Савецкія жанчыны", які прачыталі па-італьянску.

На жаль, не адбыліся з-за каранціну Covid-19 запланаваныя прэзентацыі для шырокай публікі, таму выдавец Р. Казадзеі прэзентаваў анталогію ў фэйсбуку 3 красавіка ў інтэрв'ю з куратарам паэтычнай серыі выдавецтва "CAPIREedizioni" паэтам Давідэ Рандані і адзначыў несумненную паэтычную каштоўнасць перакладзеных твораў. Ён ацаніў цікавыя вершы паэтаў пакалення 90-х гг. і назваў кнігу "акном у новы паэтычны свет" для італьянскага чытача.

Аднак, хочацца дадаць, што наўрад ці гэта, на нашу думку, можна лічыць кампліментам для беларускай паэзіі і культуры наогул.

Даводзіцца з горыччу канстатаваць, што Рэспубліка Беларусь сапраўды дагэтуль застаецца "новым невядомым светам" для Італіі, паколькі практычна не папулярызуе сваю культуру і гісторыю.

Амбасада РБ не падтрымлівае сувязі са славістамі ўніверсітэтаў – з адзіным колам людзей, якія маглі б быць зацікаўленыя ў распаўсюджванні ведаў пра Беларусь, у развіцці культурных кантактаў. Мне гэта вядома з уласнага досведу працы ў адным з найбуйнейшых і самых аўтарытэтных еўрапейскіх універсітэтаў, у Балонскім універсітэце "Альма Матэр Студыёрум".

Не праводзяцца дні культуры, выставы і сустрэчы, няма курсаў беларускай мовы, у выніку сама краіна застаецца ў невядомасці: яе пастаянна блытаюць з Расіяй.

Хочацца верыць усё ж, што нешта зменіцца да лепшага, увесь наш калектыў перакладчыкаў выказвае надзею, што гэтае выданне будзе важным і цікавым не толькі для ўніверсітэцкіх славістаў, але і для ўсіх італьянскіх чытачоў, якія хочуць адкрыць новы і захапляльны свет беларускай паэзіі.

**Ларыса Пуцылева**

радыё

# “ГАВОРЫЦЬ РАДЫЁ ВЫЗВАЛЕННЕ...”

20 траўня 1954 года выйшла ў эфір першая перадача Радыё Вызваленне (з 1959 – Радыё Свабода).

У 1956 годзе супрацоўнікі Беларускай рэдакцыі выдалі сваім коштам зборнік выбраных матэрыялаў, якія прагучалі на радыё за першыя гады яго існавання. У кнігу ўвайшло 67 тэкстаў 21 аўтара: каментары на бягучыя падзеі, артыкулы з нагоды розных угодкаў, успаміны з перажытага пад бальшавікамі, літаратурнамастацкія мантажы, фельетоны, нататкі з жыцця эміграцыі.

Рэдакцыя падрыхтавала рэпрынтнае выданне гэтай унікальнай кнігі, якая цяпер даступная ў серыі “Бібліятэка Свабоды”.




### Прадмова Аляксандра Лукашука

Радыё было першым глабальным медыя XX стагоддзя і першым полем бітвы ідэй свабоды і таталітарызму – за свет і за Беларусь. І пабеларуску.

Кнігу “Гаворыць Радыё Вызваленьне...” выдалі сваім коштам супрацоўнікі першага складу рэдакцыі вяшчання на Беларусь у канцы 1956 года. Людзі слова, яны шанавалі скарынаўскую дыхтоўнасць друку, і адабраныя імі артыкулы, фельетоны, каментары за амаль тысячу першых дзён працы сталі першым такім зборнікам сярод усіх нацыянальных рэдакцый “Radio Liberation”.

Беларусы ўвогуле былі на першых ролях у амерыканскім вяшчанні для народаў савецкай імперыі. Напачатку, у 1950 годзе, выйшлі ў эфір радыёперадачы на падсавецкія краіны Цэнтральнай Еўропы. Тады ж быў заснаваны Амерыканскі Камітэт за Вызваленне Народаў Расіі, пазней вядомы як Камітэт за Вызваленне ад Бальшавізму (ACLPR, AMCOMLIB). Адначасна – насуперак памкненням расійскай дыяспары, якая дамінавала ў ЗША, пасля настойлівай працы дзеля пераканання амерыканскага боку – узнікла падобная, але асобная ад расійцаў арганізацыя “Ліга за Вызваленне Народаў СССР”. Ліга злучыла армянаў, азербайджанцаў, украінцаў, грузін, прадстаўнікоў народаў Паўночнага Каўказу і беларусаў. Менавіта голас Лігі паўплываў на тое, што з 1953 года, з пачаткам вяшчання на Савецкі Саюз, кароткія хвалі загучалі на нацыянальных мовах паняволеных народаў. Першым старшынёй Лігі, яе прадстаўніком на перамовах з амерыканскім урадам быў старшыня Рады БНР Мікола Абрамчык.

Супрацоўнікі Беларускай рэдакцыі меркавалі і надалей друкаваць тэксты перадач – пазнака “Кніжка 1” стаіць на брашуры 1956 года, і прадмова падкрэслівае, што выпускаюць менавіта “першую кнігу”. Але гэты зборнік працягу не меў – на вялікі жаль, бо магнітныя стужкі з дзясяткамі гадоў архіўных запісаў беларускага вольнага слова не захаваліся. І справа не толькі ў недаўгавечнасці ферамагнітных носьбітаў інфармацыі – стужкі былі дэфіцытам, іх выкарыстоўвалі шмат разоў, запісваючы новыя перадачы на старыя зноў і зноў. (Сістэмнае архіваванне эфіру Беларускай службы “Радыё Свабода” пачалося пасля пераезду з Мюнхена ў Прагу ў 1995 годзе; аднак у нейкіх спецсховах у Мінску могуць ляжаць матэрыялы “перахопаў” – за савецкім часам Свабоду старанна запісвалі на магнітафоны, расшыфроўвалі, множылі і пад грыфам “Для службовага карыстання” клалі на сталы начальству.)

Адзіным друкаваным зборам беларускіх “скрыптаў”, як называліся падрыхтаваныя для чытання перад мікрафонам тэксты, кніга “Гаворыць Радыё Вызваленне...” засталася надоўга, але не назаўсёды. У 2002 годзе выйшла першая кніга “Бібліятэкі Свабоды”, якая налічвае ўжо больш выданняў, чым мінула гадоў з часу першага эфіру 20 траўня 1954 года. Прынцып “Бібліятэкі” сфармуляваны ў падзагалоўку той самай першай кніжкі – гэта “Выбраныя матарыялы Беларускае Рэдакцыі”, як і пазначаецца цяпер на вокладках усіх новых выданняў.

Шмат змянілася за мінулыя дзесяцігоддзі на Радыё – ад імя самой арганізацыі (з 1959 года – “Радыё Свабода”) да назваў і меж краін вяшчання, ад кароткіх хваль да мультымедыйнасці і дакументальнага кіно, ад сакрэтнага фінансавання з бюджэту ЦРУ да прыватнай прафесійнай карпарацыі, незалежнасць якой падтрымлівае Кангрэс ЗША. Рэдакцыя ўжо даўно працуе ў рэжыме рэальнага часу – а шлях першых скрыптаў да слухачоў у Беларусі вымяраўся сотнямі кіламетраў і многімі гадзінамі. У Мюнхене тэксты начытвалі на магнітафон, чысцілі памылкі, дадавалі музыку, потым бабіну запячатвалі ў спецпакет, кур’ер на матацыкле спяшаўся на вакзал і перадаваў пакет у цягнік, які ішоў на поўнач, у Мангайм, праз чатыры гадзіны там яго забіраў іншы матацыкліст і ляцеў да мястэчка Лампертгайм, дзе месціліся перадатчыкі, і адтуль стужкі запускалі ў эфір. А ім насустрач уключаліся глушылкі...

Не менш доўга можна пералічваць усё, што застаецца на Радыё без змен – а можна проста прачытаць апошні радок, якім сканчаецца самы першы гістарычны зборнік Беларускай рэдакцыі:

“АБЯЦАЕ СВЕТУ СВАБОДУ”.

svaboda.org

навіны

# КАЛЯ 8 ТЫСЯЧ БЕЛАРУСАЎ ВЯРНУЛІСЯ НА РАДЗІМУ ПАДЧАС ПАНДЭМІІ COVID-19 ПРЫ САДЗЕЙНІЧАННІ МЗС

Пра гэта паведамілі ў прэс-службе МЗС.

“Пачынаючы з сярэдзіны сакавіка бягучага года, пасля ўвядзення шэрагам краін надзвычайных абмежавальных мер у сувязі з пандэміяй COVID-19, рознапланавае садзейнічанне ў вяртанні ў Беларусь аказана парадку 8000 нашых грамадзян”, – адзначылі ў ведамстве.

“Знятая вострая сітуацыя з вывазам беларусаў з краін з асабліва напружаным эвакуацыйнай становішчам – гэта Індыя, ААЭ і Егіпет, куды за мінулыя тры тыдні ў каардынацыі з нацыянальнай авіякампаніяй “Белавія” арганізаваны тры спецыяльныя рэйсы”, – паведамілі ў прэс-службе МЗС.

У агульнай колькасці дадзенымі авіярэйсамі ў Беларусь дастаўлены 462 чалавекі, больш за палову з якіх склалі грамадзяне Беларусі.

Магчымасцю вылецець беларускімі спецрэйсам таксама скарысталіся жыхары яшчэ шаснаццаці дзяржаў, у тым ліку Расіі (самая шматлікая група – 120 чалавек), Украіны, Казахстана, Азербайджана, Арменіі, Аўстрыі, Латвіі, Швецыі і іншых.

Пры непасрэднай дапамозе замежных установ дзясяткі беларускіх грамадзян пакінулі асобныя краіны Афрыкі і Іарданію.

“У цесным узаемадзеянні з расійскім бокам на спецыяльных вывазных рэйсах нашы суайчыннікі змаглі вярнуцца з Кітая, Венесуэлы і Сейшэльскіх выспаў”, – дадалі ў прэс-службе.

Там удакладнілі, што па-ранейшаму захоўваецца напружанае становішча з выездам з В’етнама і Тайланда. “У сувязі з малалікасцю ахвочых скарыстацца магчымасцю вылету адмысловымі рэйсамі беларускія дыппрадстаўніцтвы ў рэгіёне працягнуць прапрацоўваць альтэрнатыўныя маршруты для вяртання грамадзян дадому”, – растлумачылі ў МЗС. Адначасова ў ведамстве адзначылі наяўнасць рэгулярных авіязносін В’етнама з Нідэрландамі і Фінляндыяй, адкуль ёсць магчымасць прайсці транзітам у Беларусь.



novychas.by паводле interfax.by

гутарка

# Фелікс Аксёнцаў: "Цяпер ясней разумееш, чаго не дарабіў"

Размова пра жыццё і смерць падчас пандэміі з Феліксам Аксёнцавым з Ванкувера ў Канадзе, паэтам, айцішнікам, эмігрантам, колішнім удзельнікам гурта "Уліс".




**– Фелікс, пачнем з асноўнага пытання – цябе і тваю сям'ю новы каранавірус абмінуў ці не?**

– Пакуль, на шчасце, абмінуў. Дарэчы, тут, дзе мы жывем – у правінцыі Брытанская Калумбія – пандэмія не такая моцная і актыўная, як у астатняй частцы Канады. Тут крыху пашанцавала. Мы ведаем людзей, якія захварэлі, але гэта не нашыя знаёмыя, а знаёмыя нашых знаёмых.

**– А з тваіх суседзяў ніхто не захварэў?**

– Не ведаю, пакуль не бачу. Добра, што мы жывем ва ўласнай хаце ў прыгарадзе – суседскія хаты стаяць побач, але на пэўнай адлегласці адна ад адной, і шчыльнасць насельніцтва тут не такая, як у горадзе.

**– У якім сэнсе пашанцавала вашай правінцыі, Брытанскай Калумбіі? Я перад нашай размовай глянуў на канадскую статыстыку – 60 тысяч заражаных каранавірусам, 4 тысячы смерцяў. Гэта трывожныя лічбы, калі параўноўваць, напрыклад, з афіцыйнай беларускай статыстыкай…**

– Так здарылася. Тут адбылося супадзенне аб'ектыўных і суб'ектыўных фактараў. У нас, здаецца, 2 тысячы хворых і 100 смяротных ахвяр. Калі ўсё гэта пачыналася, мы баяліся, што ў нас будзе болей інфікаваных. Таму што Ванкувер – вялікі горад, 3 мільёны жыхароў, і ў нас шмат людзей з Кітая ці Ірана, то бок з тых краін, якія першыя прайшлі праз гэтую хвалю…

**– Ты ж напэўна зарыентаваны, што ў Беларусі шмат хто глядзіць на афіцыйную каранавірусную статыстыку са скептыцызмам, калі казаць мякка. А як з гэтым у Канадзе – людзі давяраюць тым лічбам, якія падае ўрад?**

– Я думаю, што людзі тут на 90 адсоткаў давяраюць гэтай статыстыцы. Адзіная засцярога, што статыстыка можа быць не зусім дакладная, вынікае з таго, што не хапае тэстаў. І таму гэтая колькасць заражаных – недакладная. На самой справе – яна большая. Але гэта не таму, што нехта хоча схаваць сапраўдную інфармацыю або наўмысна заніжае статыстыку, а проста праз недахоп тэстаў на каранавірус, калі ў першую чаргу тэстуюцца людзі, якія працуюць з хворымі, або людзі ў дамах апекі для састарэлых.

**– Ці канадскі ўрад увёў або рэкамендаваў абмежаванні ў грамадскім жыцці на час пандэміі? Самаізаляцыю, сацыяльнае дыстанцыяванне і таму падобнае?**

– Канешне. Але гэтыя абмежаванні розныя ў розных правінцыях, таму што большасць такіх рэчаў паводле закона належыць да юрысдыкцыі правінцыі, а не федэральнага ўрада. Ёсць рэчы цалкам прымусовыя і ёсць рэкамендацыі. Напрыклад, закрылі мяжу для прыватных падарожжаў са Злучанымі Штатамі, чаго не было ўжо, можа, сто гадоў ці нават больш. Яе могуць перасякаць толькі тыя, для каго паездка крытычна неабходная – такую паездку тут называюць essential travel – то бок, калі ты зможаш даказаць памежнай службе, што табе нельга тваю паездку адкласці. Ну і для гандлёвых зносін мяжа адкрытая. Па-другое, калі нехта вяртаецца з-за мяжы, ён павінен два тыдні правесці ў самаізаляцыі, на такім хатнім каранціне. Калі ты прылятаеш у аэрапорт, ты павінен прадэманстраваць уладам, што ў цябе ёсць магчымасць пражыць два тыдні ў самаізаляцыі. Таксама няма ніякіх канцэртаў, таму што, у залежнасці ад правінцыі, нельга збірацца ў большых групах, чым 25–50 чалавек. Усе масавыя мерапрыемствы, уключна з матчамі Нацыянальнай хакейнай лігі, спыніліся. Зачыніліся рэстараны – не таму, што іх зачынілі прымусова, а проста таму, што ў іх няма магчымасці даць кожнаму наведніку два метры адлегласці ад іншага наведніка. Большасць рэстаранаў працуе "на вынас".

**– А школы?**

– Зачыненыя, і ўсюды ўведзенае дыстанцыйнае навучанне. Таксама са студэнтамі. Вось я працую як айцішнік у каледжы і меў шмат працы з тым, як хутка перавесці ўсіх нашых студэнтаў на дыстанцыйнае навучанне.

**– Калі людзі выходзяць на вуліцу, то яны надзяваюць маскі?**

– Вось гэта цікава. Загаду насіць маскі як такога няма. Некаторыя носяць, а некаторыя не. Тут я нязгодны з федэральным урадам. Яны доўгі час казалі, што гэтыя маскі не дапамагаюць, бо памер вірусаў такі, што маскі перад імі не абароняць, і таму яны не маюць сэнсу. Не было такой рэкамендацыі, каб маскі насіць. Я думаю, што ў іх проста не было масак. Але гэта адзіны выпадак, калі на федэральным узроўні я пачуў нейкую няшчырасць ад уладаў. Тут на правінцыйным узроўні нам пашчасціла. Таму што галоўны лекар правінцыі – не чыноўнік, а лекарка-вірусолаг, якая мае багаты досвед барацьбы з небяспечнымі эпідэміямі такіх хвароб, як Эбола і SARS, у розных краінах. І яна, як толькі ўсё пачалося ў Еўропе, ведала, што рабіць і якія рэкамендацыі даваць. Пашчасціла нам яшчэ і таму, што ў нас не было ніводнага такога масавага мерапрыемства, на якім каранавірусам заразілася б вялікая колькасць людзей, як гэта здаралася шмат дзе ў Еўропе. Таксама школьныя вакацыі ў нашай правінцыі былі пазней, чым, напрыклад, у Квебеку. Людзі з дзецьмі з Квебеку паехалі на вакацыі ў Еўропу, пакуль яшчэ не ведаючы пра маштаб каранавіруснай небяспекі, – у Італію, Францыю і Іспанію – і вярнуліся адтуль з каранавірусам. А ў нас вакацыі былі на два тыдні пазней, і людзі ўжо ведалі, што ў Еўропу нельга ехаць.

**– Цяпер ты працуеш з дому. Працы ў цябе паменшала ці пабольшала?**

– Працы пабольшала. Я жыву ў прыгарадзе, і мне трэба 90 хвілін, каб дабрацца да працы ў Ванкуверы. Таму ў мяне ёсць цяпер тры гадзіны, якіх не было раней. І гэтыя тры гадзіны пераважна занятыя той самай працай. Але я не наракаю. Таму што ўсведамляю, што ў сувязі з пандэміяй грошай ва ўніверсітэтах можа не хапіць – шмат замежных студэнтаў цяпер не можа прыехаць на навучанне, і ўніверсітэцкія бюджэты паменшалі. З аднаго боку, вельмі цяжка працаваць дзевяць ці дзесяць гадзін на дзень, але з другога – нават гэтая праца можа скончыцца, і ты станеш беспрацоўным, атрымаеш дапамогу па беспрацоўі, і ўсё. Беспрацоўе ў Канадзе цяпер вельмі вялікае.

**– А твая зарплата падчас пандэміі, калі ты стаў працаваць больш, нейкім чынам змянілася ці засталася на папярэднім узроўні?**

– Яна засталася на папярэднім узроўні. Я да гэтага стаўлюся так: я шчаслівы, што праца ў мяне наогул ёсць. У жонкі таксама ёсць праца, яна таксама працуе дыстанцыйна. Мы цяпер спрабуем не траціць грошай, абмяжоўваем сябе ў выдатках і адкладаем грошы, бо ведаем, што могуць надысці значна цяжэйшыя часы.

**– Цяпер вы з жонкай увесь час дома. Прабач, Фелікс, задам асабістае пытанне: гэткая сітуацыя не выклікае нейкіх дадатковых сварак ці непаразуменняў паміж вамі, якіх можна было б пазбегчы, калі б вы працавалі асобна?**

– Не, цяпер не сварымся часцей. Сваркі ў нас здараюцца вельмі рэдка. Мы ўжо разам 35 гадоў і жывем даволі згодна. Таму, па-першае, тут такая шчаслівая камбінацыя. Па-другое, калі мы працуем з хаты, у нас ёсць два працоўныя кабінеты, у кожнага свой.

**Ян Максімюк, svaboda.org**

**Працяг чытайце на сайце zbsb.org**

навіны

# НАРОДЖАНЫЯ Ў НАРВЕЖСКІМ ПАЛОНЕ

Да нядаўняга часу існаванне савецкіх палонных у Нарвегіі было таямніцай. Рэдакцыя "Новага Часу" атрымала ліст ад журналіста з Нарвегіі Пэра Еўнэ. Ён дапамагае даследчыцы з Осла, спадарыні прафесару Ліў М'елдэ, якая шукае народжаных у апошнія гады Другой сусветнай вайны ў нарвежскіх лагерах дзяцей савецкіх ваеннапалонных. Сярод іх былі і беларусы.

### Нажніцы фірмы "Золінген"

У 2005 годзе прафесар Ліў М'елдэ прыехала ў Санкт-Пецярбург і пазнаёмілася з Міхаілам Сальнікавым, які распавёў, што яго бацька, мастак Юрый Сальнікаў, нарадзіўся ў Нарвегіі ў 1944 годзе, але не ведаў, дзе менавіта. На працягу 45 гадоў Юрый Сальнікаў спрабаваў раскрыць таямніцу свайго нараджэння. У свае маладыя гады ён верыў у тое, што быў народжаны ва Уладзівастоку. Але ў 1961 годзе воляй выпадку ён даведаўся, што нарадзіўся ў лагеры для ваеннапалонных, які размяшчаўся ў Нарвегіі недалёка ад Паўночнага палярнага круга.

Сапраўдную гісторыю знаёмства бацькоў распавёў Юрыю яго дзядзька. Аднойчы Юрый убачыў нажніцы фірмы "Золінген", пакінутыя на стале ў гасцёўні яго бабулі. Ён спытаў свайго дзядзьку: "Не падобна, што гэтыя нажніцы зробленыя ў Савецкім Саюзе. Адкуль яны?" Дзядзька распавёў, што нажніцы прывезла маці Юрыя з нарвежскага палону ў жніўні 1945 года. Яна вярнулася з Юрыем на руках, парай бляшанак рыбных кансерваў і нажніцамі фірмы "Золінген".

Выявілася, што 17-гадовая Галіна Караленка і 24-гадовы Фёдар Савін-Сальнікаў апынуліся ў Нарвегіі ў 1942 годзе. Былі савецкімі палоннымі, у перыяд з 1942 па 1945 гады прымусова працавалі на рыбным заводзе непадалёк ад невялікага горада Будзё на поўначы Нарвегіі. Яны ніколі не дзяліліся з сынам сваімі ваеннымі ўспамінамі і не распавядалі пра яго нараджэнне ў Нарвегіі. Ні словам не згадвалі яны і сваіх цяжкіх выпрабаванняў ваеннага часу.

Галіна і Фёдар атрымалі пасведчанне аб нараджэнні Юрыя ва Уладзівастоку праз два гады, 18 сакавіка 1947 года. У той дзень Галіна нарадзіла



Прафесар Ліў М'елдэ. Фота Тамары Сушко.

другога хлопчыка, і Юрый ды яго малодшы брат былі зарэгістраваныя народжанымі ў адзін дзень як блізняты. Юрый думаў, што яму было 14 гадоў на той момант, калі дзядзька распавёў яму праўду. У той дзень ён даведаўся, што яму 16 і што ён быў народжаны на тэрыторыі Нарвегіі. Аднак дакладнае месца нараджэння Юрыя засталося таямніцай, якую яго бацькі забралі з сабой у магілу.

Кашалёк з рыбінай скуры з надпісам "Будзё. 194?" і некалькі фотаздымкаў, якія датаваліся апошнімі днямі вайны, — усё, што засталося па смерці Юравых бацькоў у 1990-х гадах. Гэтая інфармацыя стала адпраўным пунктам даследавання. Пазней імёны Юрыя і яго бацькоў былі выяўленыя ў спісах работнікаў рыбнай фабрыкі ў Лангстрандзе, замацаванай за рускім лагерам для ваеннапалонных на тэрыторыі камуны Будзін, недалёка ад горада Будзё.

### 100 000 мужчын і 1400 жанчын

Прафесарка Ліў М'елдэ пачала вывучаць гісторыю савецкіх ваеннапалонных. І ўстанавіла, што нацысты звозілі на прымусовыя працы ў Нарвегію людзей, сярод якіх былі і жанчыны, што нараджалі дзяцей у зняволенні.

Даследчыца напісала кнігу "Сакрэт пары нажніц" (Saksens hemmelighet), прысвечаную савецкім жанчынам, іх працы, жыццю і нараджэнню дзяцей у нямецкіх лагерах для ваеннапалонных на поўначы Нарвегіі. Аўтарка прасачыла за лёсамі некаторых з іх і ўзяла інтэрв'ю.

Прыблізна 100 000 мужчын і каля 1400 жанчын з Савецкага Саюза працавалі на розных вытворчых прадпрыемствах на тэрыторыі Нарвегіі на працягу акупацыйнага перыяду.

Жанчыны "з усходу" працавалі ў паўночнай частцы краіны на прадпрыемствах па апрацоўцы рыбы, якія імкліва разрасталіся. Заводы, размешчаныя ў Хамерфэсце, Свольверы, Будзё, займаліся разборкай рыбы. Праца кантралявалася нямецкім і нарвежскім начальствам.

Савецкія жанчыны нарадзілі ў нарвежскіх лагерах каля 150 дзяцей. Прыкладна 50 дзяцей нарадзілася ў лагеры ў Лангстрандзе недалёка ад Будзё ў 1944–1945 гадах, і Юрый Сальнікаў быў у іх ліку. Але адсачыць іх лёсы — складаная задача.

У Нарвегіі факт нараджэння дзяцей не рэгістраваўся ні ў грамадзянскіх актах, ні ў царкоўных метрыках. Юрыю Сальнікаву ў кастрычніку 2005 года мінула 60 гадоў, калі ён нарэшце атрымаў пацверджанне таго, што быў народжаны ў Нарвегіі ў канцы 1944 года. Пацвердзіць гэтыя звесткі атрымалася дзякуючы электронным архівам, якія захоўваюць спісы з імёнамі савецкіх палонных, перапраўленых у Савецкі Саюз з нарвежскага Нарвіка праз шведскі партовы горад Лулеа летам 1945 года.

Савецкія ваеннапалонныя, як і грамадзянскія асобы, так званыя "остарбайтары", былі адпраўленыя ў Нарвегію яшчэ ў жніўні 1941 года з прычыны дэфіцыту насельніцтва, гатовага займацца некваліфікаванай працай. Іх даставілі ў Будзё ўжо ў верасні 1941 года. 22 чэрвеня 1942 года нямецкі марскі транспарцёр "Левантэ" даставіў у Хамерфэст 700 савецкіх ваеннапалонных. 150 маладых жанчын, захопленых у палон на тэрыторыі ўсходнееўрапейскіх дзяржаў і СССР, былі прымусова адпраўленыя на працу на рыбазаводы. Гэта першы даступны дакумент, які сведчыць аб прыбыцці жанчын з Усходняй Еўропы, аднак вядома таксама, што палонныя дастаўляліся і ўвосень 1942 года.

Пачынаючы з чэрвеня 1942 года савецкія ваеннапалонныя і мірныя жыхары, адпраўленыя на прымусовыя работы, дастаўляліся на завод "Фростфіле" ў Лангестрандзе. Яны працавалі поплеч з нарвежскімі супрацоўнікамі. Жанчыны на новым канвееры па падрыхтоўцы рыбнага філе займаліся разборкай, узважваннем і пакаваннем.

### Хто яны — савецкія палонныя ў Нарвегіі?

Да нядаўняга часу існаванне савецкіх палонных, іх уклад у развіццё прамысловасці Нарвегіі ў гады вайны, роўна як і гісторыі іх лёсаў пасля вяртання ў Савецкі Саюз, заставалася таямніцай. Некаторыя нарвежцы самі ўспамінаюць пра рускіх палонных, аднак выяўлена вельмі мала дакументаў, якія сведчаць пра іх знаходжанне ў Нарвегіі і іх далейшыя лёсы.

Паняволеных работнікаў з Усходу, якія працавалі на рыбазаводзе ў Лангстрандзе, мясцовыя жыхары часцяком называлі ўкраінцамі. У Хамерфэсце палонных работніц з СССР называлі



Беларус Міхаіл Петручэня (злева) і яшчэ адзін ваеннапалонны, а таксама 11-гадовы Колбейн і яго мама. Фота прадастаўлена Пэрам Еўнэ.

"русіэнтэ". Пры дэталёвым аналізе стала бачна, што мужчыны былі родам з многіх гарадоў Савецкага Саюза, роўна як і з іншых акупаваных краін. Жанчыны былі захопленыя ў палон і адпраўленыя на прымусовыя работы з Расіі, Беларусі і Украіны, большасць з іх — рускія з гарадоў і вёсак. 52 жанчыны нарадзілі дзяцей у апошні год вайны.

Прасачыць лёсы гэтых людзей стала складанай задачай як у Нарвегіі, так і на постсавецкай прасторы. Даследчыкам удалося выявіць пяцярых з іх, трох дзяцей і дзвюх маці. Надзеі Лакуцінай, Юрыю Сальнікаву і Валянціне Сцёпінай ужо за 70. Дзве прымусовыя работніцы, Ганна Каляда і Марфа Максімаўна Сцёпіна, яшчэ нядаўна былі жывыя, яны далі інтэрв'ю, іх успаміны былі часткова запісаныя.

У Лулеа 8 траўня 2005 года была адкрыта мемарыяльная пліта, якая ўвекавечыла памяць 24 399 савецкіх ваеннапалонных і прымусовых работнікаў, якія былі перапраўленыя на цягніках з Нарвіка ў Лулеа для вяртання ў СССР летам 1945 года.

У сваю чаргу, мастак Юрый Сальнікаў стварыў макет для скульптуры, якую хоча падарыць гораду Будзё, дзе ён нарадзіўся. Скульптура выяўляе жанчыну, якая стаіць на вятры, — яна так і называецца "Жанчына на вятры". Вецер і холад былі штодзённымі спадарожнікамі палонных на іх шляху з лагера на фабрыку раніцай і ўвечары. Сёння ёсць магчымасць усталяваць мемарыял, прысвечаны гэтым людзям, калі аўтар знойдзе фінансавую падтрымку.

Вядома, што бацькі некаторых дзяцей, што нарадзіліся ў лагеры ў горадзе Будзё падчас вайны, паходзілі з Беларусі. Так, ваеннапалонны з Беларусі Міхаіл Дамінікавіч Петручэня з Салтанаўшчыны быў змешчаны на ферму пад Тронхеймам, дзе ён атрымліваў ежу і лячэнне ў апошнія месяцы вайны. На ферме ў яго з'явіўся добры сябра, 11-гадовы хлопчык па імені Колбейн. Некалькі гадоў таму нарвежскі журналіст Пэр Еўнэ знайшоў Міхаіла і прывёз Колбейна ў Беларусь, каб яны маглі сустрэцца зноў.

**А вось імёны людзей з Беларусі, якіх усё яшчэ шукаюць:**

Курэева (Кірэева?) Кацярына Фёдараўна (1925) з Магілёва. Яе сын Яўген Міхайлавіч, нарадзіўся ў Нарвегіі 05.01.1944.

Арлоўская Марыя Васільеўна (01.01.1922) з Магілёва. Яе дачка Арлоўская Святлана Аляксандраўна, нарадзілася ў Нарвегіі 01.01.1945.

Сяднёў Яўген Пятровіч, нарадзіўся ў Нарвегіі 16.12.1944. Бацька Пётр Васільевіч (1920), маці Сяднёва Зінаіда Аляксееўна (1910).

"Ці магчыма сёння знайсці гэтых дзяцей ці іх сем'і?" — задаецца пытаннем журналіст Пэр Еўнэ.

Мы паспрабуем дапамагчы нарвежскім даследчыкам. "Новы Час" ужо накіраваў запыты пра гэтых людзей у Архіў органаў ЗАГС Магілёўскай вобласці, а таксама ў Дзяржаўны архіў Магілёўскай вобласці. Мы таксама просім вас, дарагія чытачы, адгукнуцца, калі вы ведаеце штосьці пра іх лёсы, каб яны не былі забытыя.

**Дзіяна Серадзюк, novychas.by**

**гутарка**

# "Працую па скайпе і перажываю за каранавіруснае вар'яцтва ў Беларусі"

Беларускі рэжысёр, сузаснавальнік і мастацкі кіраўнік міжнароднай тэатральнай кампаніі HUNCH theatre ў Лондане Уладзімір Шчэрбань расказвае, як пандэмія змяніла ягонае жыццё, што ён думае пра каранавірус у Беларусі і як будуць адзначацца другія ўгодкі заснавання ім супольна з брытанскім акторам тэатра Олівэрам Бэнэтам .

## Што такое HUNCH Theatre

**– У нядзелю, 17 траўня спаўняецца два гады вашаму новаму тэатральнаму праекту HUNCH Theatre у Лондане. У гэты дзень вы збіраецеся паказаць адразу два спектаклі. Што гэта будзе?**

– Спектаклі, якія мы пакажам 17 траўня, гэта не жывыя прадстаўленні, гэта спектаклі ў запісе. Такое не вельмі вітаецца, і гэта незвычайная практыка. Так паказваць спектаклі стараюцца, калі іх ужо адыгралі, паказалі па свеце. Але паколькі цяпер пандэмія і ўсе мы існуем у анлайн-рэжыме, да таго ж і дзень нарodзін, таму мы вырашылі на кароткі перыяд адкрыцца і паказаць гэтыя спектаклі.

Гэта будуць два анлайн-паказы. Ад нашага мінскага філіяла гледачы змогуць убачыць спектакль "Левыя дысідэнты". Ён быў запісаны падчас фестывалю "Belarus Open".

А ў выкананні нашай лонданскай трупы будзе трансляваецца "Паданне аб святым прапойцу". Гэты спектакль быў запісаны падчас лонданскага андэграўнднага фестывалю ў катакомбах-тунэлях пад чыгункай, гэта вельмі цікавая альтэрнатыўная прастора.

Абедзве трансляцыі пройдуць на сайце Інстытуту Гётэ.

**– Як бы вы сёння ацанілі два гады існавання HUNCH Theatre ў супрацоўніцтве з брытанскім акторам Олівэрам Бэнэтам?**

– 17 траўня 2018 года разам з маім творчым партнёрам Олівэрам Бэнэтам мы абвясцілі пра стварэнне міжнароднай тэатральнай кампаніі HUNCH Theatre. Да таго часу, з 2005 году я быў сузаснавальнікам Свабоднага тэатра і рэжысёрам большасці іх спектакляў.

Але паколькі ўжо дзесяць гадоў я жыву ў Лондане, у Брытаніі, то прыйшоў момант рухацца далей і працаваць з той рэальнасцю, якая ёсць. Так вось мы з маім прыяцелем Олівэрам вырашылі стварыць HUNCH Theatre. Слову "Hunch" я не ведаю аналагаў ні ў беларускай, ні ў рускай мовах. Яно азначае "ісці за сваёй інтуіцыяй". Бывае так, што раптам, насуперак логіцы ты разумееш, што трэба рабіць так, а не інакш. Так мы і зрабілі два гады назад, калі абвясцілі пра стварэнне кампаніі.

Першым нашым спектаклем быў "Герой нашага часу" паводле Лермантава. Гэта не класічная рэч, але сучасная адаптацыя, якую мы зрабілі ў Лондане проста ў тым пакоі, дзе я жыву. Мы паказалі гэты спектакль на фестывалі ў Эдынбургу, мелі вялікі поспех, атрымалі цудоўныя водгукі, гралі яго пасля месяц. Гэты спектакль быў унесены ў спіс найлепшых лонданскіх спектакляў 2018 года. Што, вядома, немалое дасягненне, улічваючы, колькі спектакляў тут ставіцца.

І так, крок за крокам, мы пайшлі наперад. Другім быў спектакль паводле п'есы Шэндэровіча "Убачыць Солсберы". Я зрабіў два варыянты. З рускамоўнымі акторамі, якія жывуць у Лондане, і з брытанскімі. Гэта былі два розныя спектаклі з рознымі "кастамі". І мы яго паказалі ў Каралеўскай школе драматычнага мастацтва (RADA) у Лондане. Гэта адна з найлепшых школ Вялікабрытаніі, якую скончыў Энтані Хопкінс і іншыя славутасці, у нас з ёй добрыя партнёрскія дачыненні. Гэтая п'еса была прысвечаная "Навічку", атручванню ў Солсберы ў такім нечаканым ракурсе.


Олівэр Бэнэт (злева) і Уладзімір Шчэрбань.

## У пошуку згубленых перлін

**– Якой літаратурнай аснове вы аддаяце перавагу пры выбары матэрыялу для спектакляў?**

– Сваёй задачай мы ставім знаходжанне згубленых перлін еўрапейскай літаратуры і прадстаўленне іх брытанскай і сусветнай аўдыторыі. Таму для наступнага спектакля мы выбралі "Паданне пра святога прапойцу" Ёзэфа Рота. Гэта нямецкамоўны аўстрыйскі пісьменнік, які нарадзіўся ў Бродах на Львоўшчыне, быў цудоўным журналістам і празаікам, яму ўдалося прадказаць прыход да ўлады нацыстаў. Ён быў п'яніцам, жыў у Парыжы, яму, як габрэю, пашчасціла памерці яшчэ да пачатку Другой сусветнай вайны.

І вось ягоны апошні твор пра алкаголіка, які жыве пад мастамі Парыжа, мы ўзялі як аснову для свайго новага спектакля. Мы вырашылі зрабіць сучасную адаптацыю, перанесці ўсё ў Лондан, у часы пост-брэксіту, і зрабіць спектакль пра эмігрантаў. Менавіта таму на галоўную ролю не знайшлося лепшай кандыдатуры, чым Алег Сідорчык. Гэта выдатны беларускі актор, які таксама ўжо дзесяць гадоў жыве ў Лондане. Астатнія акторы – брытанцы. Я змясціў Алега ў англамоўнае асяроддзе, і яму нічога не трэба было граць.

**Сяргей Абламейка, svaboda.org**

**Працяг гутаркі чытайце на сайце zbsb.org**

навіны

# Алена Анісім: У такі час нам патрэбна дапамога

Старшыня Таварыства беларускай мовы Алена Анісім кажа, што для іх арганізацыі надышлі складаныя часы.

**Алена Анісім:** Таварыству зараз няпроста ўтрымліваць офіс. ТБМ – валанцёрская арганізацыя, мы не маем права займацца камерцыйнай дзейнасцю. З-за каранавіруса ў нашай сядзібе зараз не могуць адбывацца ніякія публічныя мерапрыемствы. Згорнутая практычна ўся дзейнасць – няма курсаў польскай і ўкраінскай моў, не праводзяцца пасяджэнні клуба "Прамова". А гэта менавіта тыя мерапрыемствы, падчас якіх можна было збіраць ахвяраванні. Раней людзі маглі падтрымаць ТБМ, але зараз такой магчымасці няма.

**РР: Сёлета восенню пройдзе і з'езд Таварыства беларускай мовы.**

**Алена Анісім:** Так, і з'явяцца дадатковыя выдаткі. Таму мы і звяртаемся па дапамогу да неабыякавых людзей. Да ўсіх, хто падтрымлівае нашу дзейнасць. Калі ў некага ёсць



хоць невялікая магчымасць – дапамажыце. Рахункі, на якія можна пералічыць ахвяраванні, надрукаваныя на сайце таварыства: tbm-mova.by

**Кастусь Заблоцкі, "Беларускае Радыё Рацыя"**

# 39-ты Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі "Гайнаўка" перанесены

Фестываль "Гайнаўка 2020" пройдзе сёлета ў верасні. Пра гэта паведаміў стваральнік фестывалю Мікалай Бушко.

"Спадзяёмся, што да гэтага часу эпідэміялагічная сітуацыя ва ўсім свеце дазволіць перамяшчэнне людзей з розных краін, – кажа Мікалай Бушко. – У праграме 39-га фестывалю свой удзел заявілі і пацвердзілі каля 30 хораў з 15 краін свету – з Еўропы, Азіі і Афрыкі. Таксама вырашылі ў кантакце з гэтымі хорамі перанесці наш фестываль на другі тэрмін – гэта з 16 па 20 верасня. Узгаднілі гэта з удзельнікамі. А гэтыя ўдзельнікі, акрамя такіх краін, якія бываюць у нас штогод, ахвоту выступіць на нашым фестывалі заявілі хоры з Іспаніі, Манголіі і Мадагаскара".

Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі з 1982 года заўсёды адбываўся ў траўні. Сёлета фестываль запланаваны з 16 па 20 верасня ў будынку Оперы і філармоніі ў Беластоку. Канцэрты царкоўнай музыкі ў рамках фестывалю праходзяць ў многіх мясцовасцях Падляшша, а таксама ў розных гарадах Польшчы, сярод іншых, у Кракаве.

**Валя Лаеўская, "Беларускае Радыё Рацыя"**

in memoriam



## Памёр Міхась Міцкевіч

27 траўня памёр Міхась Міцкевіч, сын Якуба Коласа, пра гэта напісала ў фэйсбуку ўнучка нябожчыка Васіліна Міцкевіч. Міхасю Міцкевічу было 94 гады.

Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч (31 студзеня 1926, Мінск – 27 траўня 2020, Мінск) – беларускі навуковец у галіне апрацоўкі металаў. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1980). Доктар тэхнічных навук (1985). Майстар спорту СССР па стэндавай стральбе.

Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч быў наймаладзейшым з трох сыноў Якуба Коласа.

Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны закончыў восем класаў СШ № 49 г. Мінска (I–VII класы вучыўся ў СШ № 14 Мінска), у 1943 г. – дзесяцігодку ў Ташкенце з атэстатам выдатніка. Паступіў у Варонежскі авіяцыйны інстытут на машынабудаўнічы факультэт (інстытут знаходзіўся ў Ташкенце ў час эвакуацыі); у тым самым годзе перавёўся ў Маскоўскі авіяцыйны інстытут на аналагічны факультэт. У 1947 г. пераехаў у Мінск. У 1949 г. скончыў Беларускі політэхнічны інстытут (цяпер – БНТУ) па спецыяльнасці "тэхналогія машынабудавання".

З 1949 г. працаваў у Фізіка-тэхнічным інстытуце Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, дзе займаў пасады малодшага навуковага супрацоўніка (1949–1961), галоўнага інжынера лабараторыі (1961–1968), загадчыка лабараторыі (1969–1993). З 1993 г. – галоўны навуковы супрацоўнік.

Падрыхтаваў больш за 150 навуковых прац, аўтар звыш 20 вынаходніцтваў.

За распрацоўкі ў галіне тэхналогіі і абсталявання для электраэразійнай апрацоўкі металаў быў узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй БССР (1980).

Быў прататыпам галоўнага героя дзіцячай паэмы Якуба Коласа "Міхасёвы прыгоды" (1934). Малодшаму сыну паэт прысвяціў таксама вершы: "Рагатка" (1934), "Дронік" (1935–1936), "Не тужы" (1939), "Сыну" (1942), "Міхасю" (1943), "...Адстану я, і час разлукі" (1946).

**Управа Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" выказвае шчырыя спачуванні сваякам і блізкім Міхася Канстанцінавіча, а таксама ўсім, хто яго ведаў. Мы смуткуем разам з вамі.**

## Беларускі каляндар памятных дат на чэрвень 2020 года

**5 чэрвеня**
- 150 гадоў таму, у 1870-м, нарадзіўся Зыгмунт Лазінскі, біскуп. Памёр у 1932-м.

**7 чэрвеня**
- 195 гадоў таму, у 1825-м, нарадзіўся Эдвард Паўловіч, мастак. Памёр у 1909-м.
- 140 гадоў таму, у 1880-м, нарадзіўся Вацлаў Іваноўскі, палітычны дзеяч. Загінуў у 1943-м.

**8 чэрвеня**
- 125 гадоў таму, у 1895-м, нарадзіўся Ігнат Дварчанін, паэт. Расстраляны ў 1937-м.

**9 чэрвеня**
- 50 гадоў таму, у 1970-м, забіты Уладзімір Тамашчык (у манастве Васіль), архіепіскап Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**10 чэрвеня**
- 90 гадоў таму, у 1910-м, памёр Мікалай Нікіфароўскі, этнограф і фалькларыст.

**12 чэрвеня**
- 125 гадоў таму, у 1895-м, нарадзіўся Леапольд Родзевіч, палітычны дзеяч, драматург, паэт. Памёр у 1938-м.

**14 чэрвеня**
- 120 гадоў таму, у 1900-м, нарадзіўся Міхась Забэйда-Суміцкі, спявак, дзеяч эміграцыі ў Чэхіі. Памёр у 1981-м.

**15 чэрвеня**
- 115 гадоў таму, у 1905-м, нарадзіўся Юрка Віцьбіч, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў ЗША. Памёр у 1975-м.

**16 чэрвеня**
- 65 гадоў таму, у 1955-м, памёр Васіль Рагуля, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Бельгіі і ЗША.

**21 чэрвеня**
- 200 гадоў таму, у 1820-м, нарадзіўся Браніслаў Залескі, мастак, пісьменнік. Памёр у 1880-м.
- 100 гадоў таму, у 1920-м, нарадзіўся Усевалад Родзька, вайсковы дзеяч. Расстраляны ў 1946-м.

**24 чэрвеня**
- 130 гадоў таму, у 1890-м, нарадзіўся Часлаў Родзевіч, грамадска-культурны дзеяч.
- 120 гадоў таму, у 1900-м, нарадзіўся Кузьма Чорны (сапр. Мікалай Раманоўскі), пісьменнік. Памёр у 1944-м.

**26 чэрвеня**
- 120 гадоў таму, у 1900-м, нарадзіўся Мікола Цэлеш, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

**29 чэрвеня**
- 95 гадоў таму, у 1925-м, нарадзіўся Юры Астроўскі, біяхімік, грамадскі дзеяч. Памёр у 1991-м.

**Беларусы ў свеце**
№ 5 (216), май 2020

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27